# НІВА

Год выдання V
№ 38 (238)
18 ВЕРАСНЯ 1960
БЕЛАСТОК
Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА


# СВЯТА ЎРАДЖАЮ



Прыгожа ўбраны дажыначны вянок атрымлівае з рук сялян гаспадар дажынак.



— Каб весці гаспадарку ў век атама, мала ўмець запрагаць каня, — трэба вучыцца карыстацца сельгасмашынамі. Пацвярджэннем гэтых слоў, сказаных І сакратаром Павятовага камітэта ПАРП, было зацікаўленне сельгасмашынамі, якія можна было купіць на месцы.



А ногі самі пойдуць у пляс пад задорны рытм лявоніхі.

Адзвінелі на палях косы. Нідзе не ўбачыш зараз шумлячых палеткаў жыта. Працавітыя сялянскія рукі да апошняга зерня сабралі багаты сёлеташні ўраджай. Пад пранізлівы, крыху захлёбісты гул малатарань, сыплюцца залатыя струйкі жыта, у якіх чуваць смакавіты пах духмянага хлеба з новага ўраджаю.

Адказнейшы перыяд палявых работ закончаны. Аб важнасці зробленага сведчыць і векавая народная традыцыя, якая наказвае ўрачыста адзначыць заканчэнне ўборкі ўраджаю.

Урачыста адзначылі свята ўраджаю і сяляне Гайнаўшчыны. У сонечны дзень 28 жніўня ў парку, каля Павятовага дома культуры «Гурнік», сабраліся на ўрачыстасцях жыхары Гайнаўкі і сяляне з розных вёсак павета. У 11 гадзін на трыбуне, прыгожа ўдэкараванай вянкамі з каласоў, займаюць месцы прадстаўнікі ўлад. Старшыня Прэзідыума павятовай рады нарадовай грам. Внучка пад бурныя воплескі адчыняе ўрачыстасць. Затым з сардэчным словам да прысутных звяртаецца І сакратар Павятовага камітэта ПАРП тав. Санюковіч.

Дэлегацыі сялян падносяць гаспадарам дажынак прыгожыя вянкі. Канчаецца афіцыяльная часка.

На эстраду, нібы цудоўны букет з палявых кветак, уваходзіць Беларускі народны калектыў песні і танца пры ГП БГКТ у Беластоку. Льюцца меладыйныя беларускія песні, зграбна адбіваюць рытм ногі ў беларускім народным танцы. Спартыўныя спаборніцтвы, спаборніцтвы пажарных каманд і агульныя танцы запоўнілі свята гайнаўскіх хлебаробаў.

(пч)



# ПАМЯЦІ ГЕРОЯЎ



Сколькі ж горычы было ў словах Лізы Матэйчык, калі яна расказвала аб трагедыі Папоўкі.

З 38 мірных жыхароў вёскі, толькі яна адна засталася ў жывых. Кожнае яе слова было вялікім абвінавачваннем фашызма.



Ахвярам фашызма — ад Беларускага грамадска - культурнага таварыства. Вянок ад імя ГП БГКТ складае Сяргей і Надзя Гайдук.



Шматлікія вянкі і кветкі ад прадпрыемстваў і арганізацый, школьнікаў і жыхароў навакольных вёсак пакрылі памятны камень з умураванымі імёнамі памардаваных. Памяць аб загінуўшых назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

Раніца 3 ліпеня 1943 года. Падняўшаяся над небасхілам сонца цяплынёй залатых стрэлак — праменняў ахунула зямлю, рассыпалася колерамі радугі ў слязах-расінках. У нетараплівых подыхах летняга вецярка адчуваўся спакой і прыгажосць летняга дня.

У гэты цудоўны ліпеньскі дзень асабліва варожа выдзяляліся брудназялёныя мундзіры гітлераўцаў. Агромны падкаваны фашыцкі бот бязжаласна разрываў цела безабаронных людзей. Над здраджанымі правакатарам Бівойна жыхарамі Папоўкі гітлераўцы чынілі лютую расправу. Зверскі пабітыя, акрываўленыя людзі з ненавісцю глядзелі на лютых звышчалавекаў, для якіх людское жыццё не перавышала вартасці вінтовачнага патрона.

Паволі на небасхіле выраслі цёмныя хмары. Раскаты грома, якія цяжка, нейк з енкам пранесліся над зямлёй, перамяшаліся з вінтовачнымі залпамі і крыкам мардаваных людзей, сярод якіх былі жанчыны і дзеці. У неба выстралілі чорныя слупы дыму. Вёска Папоўка перастала існаваць. Ад гэтага дня, назва Папоўка, засталася толькі на геаграфічнай карце.

(Працяг на стар. 2)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## ЛЮДЗІ І АБАВЯЗКІ

Жніво і ўборка ўжо закончаны. Зараз найважнейшай справай з'яўляецца малацьба і здача дзяржаве нарыхтовак.

**— Як выглядае гэтая справа ў Фальварках Тыльвіцкіх, Беластоцкага павета?** З такім пытаннем мы звярнуліся да старшыні прэзідыума ГРН грам. Пракопчука.

— Малацьба ў нашай грамадзе, — адказаў старшыня, — амаль на заканчэнні. Некаторыя гаспадары ўжо пачалі здаваць нарыхтоўкі.

**— Як выглядае рэалізацыя плана нарыхтовак?**

— На гэтае пытанне пакуль адказаць цяжка. Здача нарыхтовак толькі што пачалася. Але думаю, што ў выкананні плана асаблівых цяжка-

(Працяг на стар. 4)

Карэспандэнцыя з БССР

# Беларускі шоўк

Беларускі лён даўно ўжо вядомы за межамі Савецкага Саюза. З ільну, які вырошчваецца ў Беларусі, вырабляюцца найтанчэйшыя ільнабацісты і палатно, тэхнічныя тканіны, а таксама розныя вырабы — абрусы, сурвэткі, ручнікі і шмат іншага. Менш доўгае тэхнічнае валакно ідзе на мешкавіну і ўпакоўвачныя тканіны, вяроўкі, шпагат. Паклю выкарыстоўваюць у будаўніцтве, а кастрыца знаходзіць прымяненне як высокакаларыйнае паліва. Апрача таго, яна выкарыстоўваецца пры вырабе паперы, цеплаізаляцыйных і гукаізаляцыйных пліт.

Льняное семя мае ў сабе многа бялка і тлушчу. Гатаваны ільняны алей, які завецца пакостам, шырока прымяняецца ў лакафарбавальнай прамысловасці. Льняны алей ужываецца таксама ў харчаванні, у медыцыне, ідзе на выраб цыраты, лінолiума, непрамакальных тканін і г. д. Адходы пасля выдзялення масла з семя — жмыхі з'яўляюцца высокаякасным кармом для жывёлы.

Машынабудаўнічая прамысловасць СССР за кароткі час забяспечыла ільнаводаў рознымі машынамі. Зараз ільнаводы маюць самыя лепшыя ў свеце сеялкі «СЛ—4». Такая сеялка высявае лён адразу ў 44 радкі, захопліваючы паласу ў 3,3 метра. У большасці калгасаў механізаваны працэс барацьбы з пустазеллем і шкоднікамі — ільняной блыхой. Усё большае прымяненне знаходзіць авіяцыя, якая значна аблягчае догляд за пасевамі.

А ўборка ільну? Яна з кожным годам усё больш механізуецца. Церабілка «ЛТ-7» збірае ўраджай з васьмі — дзесяці гектараў, а перадавыя механізатары рэспублікі гэтай церабілкай збіраюць яшчэ больш. Напрыклад, Іван Кулеш з калгаса «Чырвоны сцяг» Рэчыцкага раёна за дзесяць дзён у мінулым годзе сабраў ураджай з 210 га ільну, г. зн. у сярэднім па 21 га ў дзень.

У Беларусі створана магутная прамысловасць пачатковай апрацоўкі ільну. Перапрацоўкай трасты на валакно заняты дзесяткі дзяржаўных заводаў. Ёсць свае перапрацоўчыя заводы і ў калгасах. Яны абсталяваны складанымі мялкамі і трапалкамі, якія даюць магчымасць рабіць пачатковую апрацоўку ільну на месцы.

У сувязі з павелічэннем вытворчасці ільнопрадукцыі намечана будаўніцтва новых прадпрыемстваў. Хутка пачнецца будаўніцтва Брэсцкага ільнопрадзільнага завода, расшыраецца Аршанскі ільнокамбінат. Гэты камбінат - гігант дасць краіне ў 1965 годзе 45,7 млн. метраў тканіны. Гэтай тканінай можна будзе апаясаць па экватару зямны шар і яшчэ шмат застанецца.

За апошнія пяць год пасевы ільну ў рэспубліцы павялічыліся ўдвая і складалі ў мінулым годзе 280487 гектараў. Агульны збор валакна перавысіў даваенны ўзровень у 2,9 разы. Беларусь зрабілася ў СССР галоўным пастаўшчыком гэтай прадукцыі.

За поспехі ў развіцці ільнаводства Беларускай ССР чатыры разы прысуджаны пераходны Чырвоны сцяг Савета Міністраў СССР і УЦСПС. Штогод свае дасягненні рэспубліка дэманструе на выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі ў Маскве.

Возьмем, напрыклад, Віцебскую вобласць. Тут ёсць нямала калгасаў, дзе штогод ураджай ільносемя і валакна па 5—6 цэнтнераў з гектара, а ў некаторых раёнах нават і па 6 — 8 цэнтнераў ільносемя і столькі ж валакна. У мінулым годзе ў Талочынскім раёне было пасеяна 5167 гектараў гэтай каштоўнай тэхнічнай культуры. За пасевамі быў арганізаваны добры догляд, своечасова праведзена ўборка. Раён датэрмінова выканаў план продажу ільну дзяржаве і атрымаў 23 мільёнаў рублёў.

Такія ж цудоўныя ільнаводы працуюць і ў Магілёўскай, Гродзенскай, Брэсцкай і іншых вобласцях рэспублікі.

Іх поспехі абумоўлены, як высокай ступенню механізацыі, так і сістэмай агратэхнікі. Усюды лён сеюць па канюшыне або пасля канюшыны з цімафееўкай. Шырока стасуецца перадпасяўное прыкатванне глебы, што садзейнічае раўнамернаму развіццю і адначасоваму выспяванню раслін. Распрацавана сістэма арганічных і мінеральных угнаенняў. Своечасова праводзіцца падкормка раслін.

Вялікую дапамогу нашым ільнаводам аказваюць вучоныя рэспублікі. Пры Акадэміі сельскагаспадарчых навук БССР спецыяльныя аддзелы займаюцца ўдасканальваннем агратэхнікі і селекцыі ільну. У рэспубліцы створана шырокая сетка насенняводчых станцый, якія паляпшаюць і вывадзяць новыя гатункі ільну і забяспечваюць ім калгасы.

Вялікія задачы стаяць перад ільнаводамі ў бягучым годзе. Яны абавязаліся павялічыць вытворчасць ільновалакна прыблізна на 60 прац. Калгаснікі не шкадуюць сіл і працы, каб выканаць свае абавязацельствы.

В. ХОНЦЭР

# Летні адпачынак дзяцей

Усенароднай любоўю і ўвагай карыстаюцца дзеці ў Савецкім Саюзе. Дзяржава стварыла ўсе ўмовы, каб дзеці пасля напружанай вучобы добра адпачылі ў час летніх канікул.

Радасным быў летні адпачынак у беларускіх рабят.

У самых маляўнічых кутках Беларусі працавала каля двухсот піянерскіх лагераў, у якіх адпачывала больш 80 тысяч вучняў. На лагерны рэжым было пераведзена звыш 30 тысяч выхаванцаў дзіцячых дамоў і школ - інтэрнатаў, а таксама 56 920 выхаванцаў дзіцячых садоў (пшэдшколя).



Добра паплёскацца ў вадзе. (Піянерскі лагер для дзяцей рабочых мінскага аўтазавода «Зубронак».)



Турысцкі паход па роднаму краю (Піянерскі лагер для дзяцей будаўнікоў «Будаўнік»).



Працінёла гучыць у лесе музыка П. І. Чайкоўскага. (Піянерскі лагер «Будаўнік»).

ворку было вырыта восем вялікіх ямаў, і я думаў, што яны прадназначаны пад бомбасховішча. Магчыма так і планавалася, але абставіны прымусілі выкарыстаць іх інакш...

У нас пальчатак не было. Даводзілася за ўсё брацца голымі рукамі. Пры датыканні да трупа ў мяне мурашкі прабягалі па целе. Часам мне здавалася, што некаторыя з трупаў яшчэ жывыя і маглі схапіць за руку. Карціна была страшная, але мне нічога не заставалася рабіць, як дзейнічаць рашуча.

Я пачаў выцягваць трупы на панадворак і складаць ля агню. Іншыя кідалі іх ў яму і аблівалі нафтай. Некалькі дзесяткаў трупаў, зваленых у горбу, гарэла, распаўсюджваючы страшны пах.

У гэтай кашмарнай аперацыі ўдзельнічала каля двухсот чалавек. З часам я амаль супакоіўся і пачаў думаць аб тым, як - бы аблегчыць сваю працу. Я спрабаваў цягаць цяжкія мёртвыя целы то за ногі, то за галаву.

Каб не засталіся жывыя сведкі, якія маглі б расказаць аб існаванні нязвыклай турмы, вязняў забівалі ціяністым каліям, атравіўшы ім ежу. А тых, хто, прадчуваючы бяду, адказаўся ў той дзень ад ежы, растрэльвалі з кулямётаў праз вокна ў дзверах для перадавання ежы. Раненых потым дабівалі з пісталетаў.

Да прыходу савецкіх войск нам трэба было знішчыць трупы і турму. Таму нас ні на мінуту не пакідала думка аб тым, што мы не можам сябе лічыць у бяспечнасці, пакуль застанецца неспалены хоць адзін труп.

Хутка стала ясна, што спаліць усе трупы ў васьмі ямах немагчыма. Яшчэ не згарэла адна партыя трупаў на дне ямы, як на яе скідвалі другую.



Калі б трупы спальваліся поўнасцю, то хапіла б месца для ўсіх, але нас падганялі. Да сямі гадзін вечара ўсе восем ямаў былі запоўнены попелам і касцямі з астаткамі неспаленага мяса, але каля ямаў заставаліся яшчэ горбы мерцвякоў.

Неўзабаве загадалі насіць ваду і гасіць агонь у ямах. Мы пачалі заліваць полымя. Спачатку гарэўшая нафта ўспыхнула яшчэ мацней, але затым агонь аслаб. Калі ён зусім згас, мы пачалі выцягваць трупы з ямаў. Цалкам спаленыя трупы рассыпаліся, і мы выкідвалі попел і косці лапатамі і віламі. Але большасць трупаў спалілася толькі часткова. Мы спрабавалі падчапіць паасобныя часткі віламі, але вілы не затрымліваліся ў спаленым мясе, і падчэпленыя кавалкі падалі назад у яму. Таму нічога не заставалася рабіць іншага, як выцягваць іх рукамі. Але і рукамі было працаваць вельмі цяжка. Уздутае і, здавалася пруткае чалавечае мяса ў руках распаўзалася, як размоклае мыла, і прашмыгвала між пальцамі. Нам, прывычаеным да трупаў, ужо не дзейнічаў на нервы выгляд апаленых касцей, аднак поўспаленыя часткі чалавечых цел і ўнутранасці сюд-туд прымушалі ўздрыгваць са страху. Асабліва страшна было, калі траплялася галовы з часткай захаваўшагася твару. Хапіўшы такую галаву, чорную з аднаго боку і як бы жывую з другога, з якога глядзелі яшчэ не страціўшы свайго бляску вочы, я адчуваў сябе паралізаваным духам помсты, якая веяла ад гэтых вачэй. Здавалася, не будзе канца нязноснай працы. На тварах людзей, занятых ёю, ужо немагчыма было прачытаць чалавечага выразу. Я ледзь варушыў рукамі і, бы шалёны, не адчуваў, як ад жару ў мяне на галаве часам запальваліся валасы.



Неўзабаве на панадворак уехала некалькі грузавікоў. Падвезлі драбілкі для крышэння касцей. Цяпер над выцягнутымі з ямаў астаткамі трупаў пачалі праводзіць новую аперацыю. Паасобныя часткі білі аб зямлю, білі па іх лапатамі, каб аддзяліць мяса ад касцей. Мяса зноў кідалі ў ямы, аблівалі нафтай і падпальвалі. Косці закладвалі ў драбілку, дзе малолі, затым насыпалі іх на грузавікі і вывозілі. Ужо цямнела, але работы яшчэ было шмат. Неўзабаве паставілі пражэктары, і работа працягвалася. Калі адзін з грузавікоў, вяртаючыся з чарговага рэйсу, праязджаў міма, з кузава выскачыў чалавек і хлопнуў мяне па плячу. Гэта быў Хаясіда. Мы моўчкі паглядзелі адзін на аднаго. Хаясіда галавой паказаў на аўтамашыну як бы пытаў, ці не хачу я праехацца з ім. Я згадзіўся. Узяўшыся за лапаты, мы заладавалі машыну змолатымі касцямі і селі ў яе.

— У кожным выпадку, гэта работа лепшая, — сказаў Хаясіда.

Выехаўшы за вароты, машына пайшла па траве. Навокал ляжаў роўны стэп, і толькі мясцамі трапляліся лагчыны, запоўненыя вадою. Косці скідвалі ў гэтыя лагчыны. Каб потым не падумалі, што гэта чалавечыя косці, іх завальвалі рэшткамі спаленых трупаў коней і іншых паддоследных жывёлін, зверху раскідвалі іх галовы, ногі і г. п.

Работа закончылася глыбокай ноччу.

Нас адпусцілі на паўгадзіны на вячэру. Нягледзячы на пусты жывот нам не ўдалося праглынуць ні кавалка. Мы да самых касцей прасяклі непрыемным пахам. Зняможаныя мы кінуліся на ложакі.

(Працяг будзе)

# АБ ЦУДАХ

**З СЯРЭДНЕВЯКОЎЯ**
**Некалькі цудаў св Станіслава.**

**Цуд першы.** Адна жанчына парадзіўшы дзіця цярпела страшныя мукі. Потым спаралізавала ёй левую руку і нагу. Хворай жанчыне з'явіўся аднойчы ў сне муж у белай адзежы і сказаў ёй: «Прыймі дзіця здаровую раду, пакінь усе людскія лякар-



ствы, якія табе не памогуць і аддайся ў апеку біскупа Станіслава і выздаравееш».

**Цуд другі.** Адна дзяўчына спад Кракава мела (нібы) пад векамі чарвякі. Калі гэтых чарвякоў ніякім людскім спо-



сабам не ўдавалася вырваць з ачэй, бацькі дзяўчынкі заняслі яе ў касцёл, дзе і выздаравела.

**Цуд трэці.** Жонка нейкага там Пятра мела страшную хваробу, якая зрабіла яе так брыдкай, што ніхто без агіды не мог на яе глянуць. І хоць лякарская штука доўга працавала над яе



выздараўленнем, го аднак нічым лекары не маглі дапамагчы. Выздаравіў яе персцень біскупа.

**Цуд чацвёрты.** Малому хлопчыку гніў жывот і выпадалі ўнутранасці. Бацькі пераканаўшыся, што лякарства яго не вылячыць, занеслі хлопца да магілы біскупа Станіслава, дзе выздаравеў.

**Цуд пяты.** Бура пагражала затапленнем карабля і ўсе людскія намаганні нічога не памаглі. Толькі цуд памёршага біскупа выратаваў людзей.

**Цуд шосты.** Як цудоўная кара за забойства інквізітара Швенкінфельда, выбух у Вроцлаве пажар. «Адна набожная жанчына з манастыра бачыла падчас пажару, як над горадам лётаў з мячом анёл, які кідаў на горад распаленыя вугалі і раздзьмухвай полымя, каб хутчэй гарэла». Было гэта 8 мая 1342 г. Згарэў тады амаль увесь горад, «хоць усе ахвярна гасілі пажар». А вось яшчэ два цуды апата Бенедыкта.

**Цуд сёмы.** У 1665 годзе пэўную вёску ў Латарынгіі (Францыя) наведвалі частыя пажары. Жыхары пайшлі за дапамогай у манастыр. Там атрымалі медалі..., якія павешалі на сценах дамоў. Пажар спыніўся.

**Цуд восьмы.** У тым годзе ў Бургундыі (Францыя) запанавала «зараза на быдла». Далі піць быдлу ваду, у якой знаходзіўся медаль святога Бенедыкта і зараза прайшла.

Першая рэч, якая кідаецца ў вочы ва ўсіх цудах, гэта сувязь большасці цудаў з безнадзейнымі выпадкамі, калі людзей апаноўвае пачуццё бяссільнасці: не памагаюць лекары, не можна пагасіць пажару і г. д. Чалавек прыбіты бядой, перастае далей з ёю змагацца, перастае змагацца з заразай, пажарам, і страціўшы веру ў людскія намаганні выглядае дапамогі «сілы вышэйшай».

**ВЕРА Ў ЦУДЫ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ТАМ, ДЗЕ ЗНІКАЕ ВЕРА Ў СІЛУ ЎЛАСНЫХ РУК, У СІЛУ ЎЛАСНАГА РОЗУМУ, У СІЛУ ЗГУРТАВАНАСЦІ ЛЮДЗЕЙ.**

**Калі чалавек звяртаецца за дапамогай да «вышэйшых сіл», гэта значыць ён перакрэслівае самога сябе, уцякае ад рэчаіснасці, апускае рукі, паддаецца злу. Калі ў часе пажару я не бягу па ваду, але бяру ў рукі ікону і хрышчу ёю агонь, значыць фактычна я не змагаюся з пажарам, паддаўся — мне толькі здаецца, што я змагаюся з пажарам іконай.**

**КОЖНЫ ЦУД — ГЭТА ІМКНЕННЕ ЗАБІЦЬ У ЧАЛАВЕКУ ЯГО ВЕРУ Ў СЯБЕ, СВАЕ СІЛЫ, СВОЙ РОЗУМ, ЗАБІЦЬ ВЕРУ Ў ЧАЛАВЕКА. У СІЛУ З'ЕДНАНЫХ НАМАГАННЯЎ ЛЮДЗЕЙ.**

Для прыкладу прывядзем цуд св. Северына.

Калісь на сялянскія палі наляцела шаранча. Сяляне пабеглі ў касцёл і пачалі маліцца да св. Северына. Толькі адзін селянін — замест маліцца з іншымі — пайшоў на поле і цэлы дзень змагаўся з шаранчой. Каб аказалася, што барацьба селяніна з шаранчой выратавала яго поле, а палі тых, якія звярнуліся з дапамогай да святога (г. зн. уцяклі ад барацьбы) былі знішчаны. хто ж бы хацеў верыць у цуды? І каб ратаваць гэтую веру ў цуды і паказаць, што чалавек гэта марны, бяссільны чарвяк, св. Северын вымушаны быў не толькі памагчы тым, якія да яго маліліся, але перш за ўсё пакараць таго, які асмеліўся весці барацьбу з шаранчой. І таму пасевы ўсіх засталіся, а аднаго толькі селяніна, які не маліўся святому, былі знішчаны.

Зразумела, што гэты цуд, як і ўсе іншыя **выдуманы**, але не гэта найважнейшае ў цудах. Найважнейшае ў цудах тое, што ў іх выразна і востра выходзіць наверх глыбока антыгуманістычная істота веры ў цуды.

**Гуманізм — гэта вера ў чалавека, вера ў людскі мозг, перакананне, што чалавек можа пазнаць і змяніць прыроду, знішчыць зло. Гуманізм — гэта вера ў свае сілы, вера ў навуку.**

**А вера ў цуды — пярэчыць усяму гэтаму.**

Цуды выдумлівала і выдумлівае духавенства. Хіба запытаеце, чаму духавенству патрэбна антыгуманістычная пастава перад жыццём?

Адкажам. Людзі, якія змагаюцца з пажарам, паводкай, заразай, і перамагаюць, пераконваюцца, што з кожным злом можна і трэба біцца, набіраюць веры ў свае сілы; ахоплівае іх радасная надзея, што ў падобны спосаб, спалучыўшы сілы многіх людзей, можна і трэба змагацца таксама з грамадскім злом, што можна дабіцца, каб усе былі роўнымі і ўсе працавалі. Духавенству і панам гэта не на руку. І таму выдумлівалі цуды.

Як жа часта яшчэ і цяпер сярод нас ёсць людзі, якія ахвотна вераць у цуды, а нават чакаюць, каб цуд ім памог у бядзе. Нават у дробных штодзённых выпадках шукаюць нечага незвычайнага: спатыкнуўся — ой, не ўдача, забыў што — не вяртаюся, бо будзе дрэнна, кот перабег дарогу — няшчасце, і г. д.

І з усёй выразнасцю пацвярджаецца яшчэ раз роля ведаў, навукі ў жыцці чалавека. Бо толькі цёмны чалавек паверыць, што будзе няшчасце, калі кот перабяжыць дарогу.

# АФРЫКА — краіна цікавая

### ЛЮДСКІЯ ГАЛОВЫ І ЖАНОЧАЕ ВОЙСКА

Адной з найбольш асаблівых афрыканскіх краін, сярод тых, якія атрымалі незалежнасць з'яўляецца Дагамей. Мае ён багатую гісторыю. Вялікі кароль дагамеяў — Гоза, які распачаў сваё панаванне ў 1818 г. і панаваў праз 40 год, быў надзвычай ваяўнічым і адначасова вельмі лютым. Муры яго палаца былі збудаваны з людскіх чэрапаў, а спальня вылажана галовамі яго ворагаў. Галоўнай «збройнай сілай» гэтага караля былі войскі жанчын на конях. Налічвалася іх да 18 тыс., а іх адвага не ведала граніц.

Назва Дагамей паходзіць ад імені аднаго з каралёў і абазначае «Жывот Дана». Кароль Дан вельмі любіў есці свае ахвяры.

Многія дагамеі маюць парэзанае цела. Маладым дзяўчатам робяць нарэзы на целе 12 разоў. Нарэзванне адбываецца публічна і з'яўляецца вялікай урачыстасцю.

### ВЕЛІКАНЫ З РУАНДЫ

Руанда — радзіма веліканаў з племені Ватусаў. Людзі з узростам звыш 220 см спатыкаюцца тут на кожным кроку. Ватусы жывуць у Руандзе ад 400 год. Гэта не негры. Выводзяцца ад Хамітаў. Прыйшлі сюды з поўначы.

Ватусы моцна шануюць жанчын. Разводы не дапускаюцца. Калі памірае адзін з членаў роду, яго быдла раздзяляюць так: быкі атрымлівае служба, а каровы — сваякі.



## ЗОРКА ВЕНЕРА

Старадаўнія астраномы называлі планету Венеру сястрой Зямлі, таму што па сваіх памерах яна амаль не адрозніваецца ад яе (папярочнік Венеры ўсяго на 156 кіламетраў менш зямнога). У народзе Венеру называюць Заранкай. З-за выключнай блізкасці да Зямлі Венера блішчыць ярчэй за ўсе планеты і зоркі.

Першае важнае адкрыццё адносна гэтай планеты было зроблена ў 1761 годзе Ламаносавым, які ўстанавіў, што на Венеры ёсць атмасфера. Складаецца яна галоўным чынам, з вуглекіслага газу. Такі ж састаў мела зямная атмасфера каля 200 мільёнаў год назад, у каменнавугляны перыяд. З развіццём расліннасці на Зямлі як вядома, змяніўся і састаў атмасферы, павялічылася ў ёй утрыманне кісларода. Такім чынам, гэты працэс магчыма адбудзецца і на Венеры.

Нядаўна з дапамогай радыётэлескопаў удалося пачуць навальніцы на Венеры (найменшая адлегласць да яе — 40 мільёнаў кіламетраў). Тым жа шляхам было даказана, што Венера робіць абарот вакол сваёй асі за 22 гадзіны 17 мінут. Год Венеры карацей за зямны і складае ўсяго 225 сутак, а сярэдняя адлегласць Венеры ад Сонца роўна 108 мільёнам кіламетраў.

## ДЛЯ ЗДАРОВЫХ і ХВОРЫХ

Цукар і цукеркі даюць нам шмат калорый, але ў цукры няма вітамінаў, мінеральных солей і бялкоў. Таму, напрыклад, не трэба даваць дзецям вельмі шмат салодкасцей. Харчаванне заўсёды павінна быць разнастайным.

* ⁂ *

Чым больш здробнена ежа пры кулінарнай апрацоўцы, тым лягчэй яна пераграўляецца і тым паўней засвойваецца. Са зваранага цэлага гароху засвойваецца толькі 75 прац., але калі расцерці гарох на кашку, колькасць засвоеных пажыўных рэчываў павысіцца да 95 прац.

* ⁂ *

Пры празмерным ужыванні моцнага чаю ён шкодна ўплывае на арганізм: вялікія дозы тэіну вельмі моцна ўзбуджаюць нервовую сістэму, выклікаюць сэрцабіццё, сон робіцца неспакойным. Апрача таго, лішняя колькасць вадкасці ў арганізме ўскладняе работу сэрца і нырак і садзейнічае вымыванню з арганізма неабходных для яго вітамінаў і мінеральных солей. Асабліва шкодны вельмі моцны чай пры захворваннях сардэчнасасудзістай і нервовай сістэмы. Дзеці таксама не павінны піць моцнага чаю.

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

### ДЫМ — КРЫНІЦА РАКА

«Дыханне паветрам такога горада як нпр. Лондан, з'яўляецца таксама ракаўтваральнае, як і курэнне 100 папярос у дзень» — так сказаў адзін з вядомых англійскіх хірургаў.

Іншы англійскі прафесар сцвярджае, што рак выклікаюць дымы, якія знаходзяцца ў паветры.

Не толькі тытунь з'яўляецца небяспечным, — рака лёгкіх могуць выклікаць нпр. дымы са спаленай травы.

У 90 прац. — згодна з цвярджэннем вучонага — рак бывае выкліканы праз вуглепаходны прадукт, які знаходзіцца ў дыме.

### МАЛАКО І ЯШЧЭ РАЗ МАЛАКО

«Дзень малака» быў арганізаваны нядаўна ў Францыі. Заахвочваў ён піць малако. На тэму аджыўчых вартасцей малака выказаліся вядомыя прафесары Францыі.

Малако вельмі карыснае так для дзяцей, як і для дарослых.

Прафесар Дэбрэ ўцвярджае, што дзеці ўсё яшчэ мала п'юць малака і трэба зрабіць усё, каб пілі больш.








Без слоу



— Нешта ты гэтага краўца больш як гадзіну стрыжэш.
— Нічога, ён мой гарнітур больш як год шые.



Жонка, хутчэй сюды! Нашага Гошку па тэлевізару паказваюць...

МІХАСЬ СКРЫПКА

# ЯК Я ПАМІРАЎ

Ахвотнікаў паміраць, я думаю, не так багата на зямлі. Спакон веку ўжо такая завядзёнка: людзі хочуць жыць, ды яшчэ можна смела дабавіць, не абы як жыць, а добра жыць, каб ніякай напасці, ні вайны ні гора не ведаць — з песняй лажыцца, з песняй і снедаць. А пра сябе асабіста скажу ад душы: каб было такое таварыства — закантрактаваўся б на дзвесце год і нікому б не скардзіўся, вось толькі б зайздроснікі збоку не назалялі. На гэтую «заяўку» я маю сякія - такія падставы.

Перш за ўсё я — страшэнны аптыміст. Я заўсёды веру ў лепшае і заўсёды ў мяне добры настрой. Памятаю, яшчэ будучы хлапчуком і папаўшы пад дужэйшага таварыша, крычаў:

— Ага, папаўся!

А і падросшы, бядзе не здаваўся. Настрой — вялікая справа. Казаў жа адзін вучоны: «Вясёлы настрой — палавіна здароўя». І скажу праўду, на здароўе не гневаюся. І яно на мяне не скардзіцца — берагу. Вось, напрыклад, жонка пачне, як гэта ўсе кажуць, пілаваць — а я ніякіх ёй сустрэчных «тэзісаў», наадварот: яна галёкае, а я спяваю або патыліцу чухаю. Выпусціць яна ўсе абоймы, астыне, а тады абое і смяёмся. Па-другое, я ўжо і без дактароў ведаю, што пад'есці з апетытам, гэта не тое, што проста насёрбацца. І апетыт на мяне не гневаецца. Па трэцяе, я аматар спорту. Хваліцца не буду — ніякага там майстра мне не прысвоілі. Але ў зборнай футбольнай, у шахматах і па лыжах у апошніх не лічыўся. Адным словам, да кожнай бочкі шпунт. А ў спісах «Спартака» ці «Дынама» ні наўмысля, ні выпадкова не быў.

Яшчэ трэба прыкінуць як плюс для здароўя і тое, што не куру. Малы быў — курыў, то мох, то ў бацькі «бычка» падстрэльваў.

Пэўна вы ў мяне запытаецеся, навошта я гэта ўсё гавару, пералічваю плюсы і ці не хачу я скруціць адказ на пытанне, як я паміраў. Усё тое, што я расказаў, гэта нібы прадмова да адказу, бо паміраць я сапраўды паміраў, прычым так паміраў, што ледзь не памёр, нягледзячы на такія добрыя прыкметы здароўя, як апетыт і настрой.

Было гэта ў ліпеньскую спёку. Ні з таго ні з сяго занямог. Да гэтага, прызнаюся, ніколі ў жыцці не хварэў. Ну, галава там ці жывот на гадзіну - другую забаляць, дык гэта ж не хвароба. А тут проста нямаведама што падкасіла мяне і — на ложак. Я стараюся не здавацца, а яна, немач, гне на ложак. Паляжу, думаю, трошачкі і — на работу. Спрабую ўстаць праз гадзіну — дзе там: у вачах кругі. Сунуў пад паху градуснік — сорак градусаў, як у тым паўлітры. Я пад другую — столькі ж. Ого, думаю, гэта ж кепскія справы: 41 градус — ужо побач са смерцю. Сорак два — і

(Працяг на стар. 7).

# ПАПУГАЙ

Прыйшоў я аднойчы ў госці да Міхася. Прабачце, дарагія чытачы, мяне то вы ведаеце, а аб Міхасю ні гу-гу не чулі. Гэта той самы Міхась, які ў мінулым годзе падштанікі згубіў на кірмашы. Зараз, калі вы ўжо ведаеце аб якім Міхасю ідзе размова, скажу вам, што гэтаму Міхасю ўдалося дзесьці дастаць папугая.

Папугай з Міхасём так зжыўся, што толькі гарэлкі з ім не піў. Калі Міхась піў, папугай перш глядзеў, а пасля крычаў дурным голасам усялякія непрыстойныя словы, якіх навучыўся ў п'янага Міхася.

Сяджу, значыцца, я ў Міхасёвай хаце ў якасці госця і гаворым ад душы — успамінаем, што пражылі, колькі разоў цэны выраслі і абніжаліся, а пасля я пытаю:

— Скажы, сябра ты мой, як пройдзены намі шлях назваць?

А за плячыма Міхася вокліч чуваць: «Ад Леніно да Бярліна!»

— Нешта твая каляровая варона ў размову ўключаецца, — заўважваю.

А Міхась на тое:

— Шут з ёю, не звяртай увагі, а то яшчэ лаяцца пачне.

Гаворым мы аб ураджаі ў гэтым годзе.

— Пышна, — гавару, было б па 20 цэнтнераў з гектара сабраць.

А заграннічны пятух крычыць: «Дурань думкамі багаты!»

— Уласна кажучы, з кім я гавару? — з табою, ці з гэтым чортам зялёнахвостым? — пытаю.

А Міхась замахаў рукамі і пачынае жаліцца, як хадзіў у грамадскую раду за дазволам бычка зарэзаць, але так як вяпрука на план не адставіў, дазволу не атрымаў.

— Бюракраты няшчасныя! Што ж агульнага мае бычок з парсюком, — спачуваю. А папугай крычыць: «Далоў фашыстаў»!

— Мне твой каляровы дурань на нервы дзейнічае. Калі ўлады такое пачуюць, непрыемнасці будуць, — гавару.

А Міхась мяне супакойвае:

— Мой попка да мундзіра з пашанай адносіцца. Учора пісьманосца за міліцыянера палічыў і крыкнуў: «Няхай жыве рэвалюцыя».

Супакоіўся я. Бачу, птушка добранадзейная, і гавару:

— Вось каня б дакупіць. Мы б з табой на вывазцы лесу зарабілі.

Толькі дзе б грошыкаў дастаць?

Міхась не паспеў губамі паварушыць, як тут...

«Гані пяршак. Так-так!» — зашчоўкала клювам паганая птушка.

— Я б зарэзаў гэтага пятуха і ў каструлю кінуў, — гавару, а папугай крылламі б'е па клетцы і крычыць: «Ратуйся, хто можа!»

— Ён разумее, ці падурному крычыць? — пытаю.

А Міхась плячыма паціскае (адкуль, моў, ведаю) і тлумачыць, што бываюць дні, калі папугай і словам не адазвецца.

— Сустрэнемся ў такі дзень і пагаворым без перашкоды, — прапаную.

З Міхасём развітваюся і набліжаюся да дзвярэй, а ўслед за мною нясецца: «На лёгкім канцэры к чортавай мацеры».

Тут я не вытрымаў, сцягнуў з нагі бот і запусціў у папугая.

Клетка зазваніла, а папугай нахохліўся і крычыць: «Заб'юць, тут Гітлер капут».

Выйшаў я ад Міхася і думаю: чаго толькі заграніцай не выдумаюць. Нават гаворачых птушак выседжваюць і пры іх дапамозе імкнуцца захістаць нашы пралетарскія погляды.

А можа, людзі дарагія, за прыкладам гэтых птушак і ўсялякія Адэнаўэры гавораць неразумныя словы.

*Дзядзька Лявон*




### СПУЖАЎСЯ

Адзін чалавек вёз жанчыну з горада ў вёску. Калі іх мінаў самаход, конь вельмі спужаўся і пачаў шалець. Гаспадар ледзь яго паўстрымаў. Калі самаход праехаў, жанчына спыталася:

— Чаму ваш конь так баіцца самаходаў?

— А калі б вы, напрыклад, убачылі, што мае нагавіцы самі ідуць, то напэўна самі спужаліся б, — адказвае гаспадар.

**Васіль Кіндзюк**
Дубіны

### ХТО ПЕРШЫ

Кажа сусед да суседа:

— Я вельмі прасіў бы, каб вы пазбыліся свайго сабакі. Учора мая дачка спявала, а ён ізноў пачаў выць.

— Прашу ветліва прабачэння, — аднак ваша дачка пачала першая, — адказвае гаспадар сабакі.

**Аркадзь Сарачынскі**
Плянта

### У СУДЗЕ

Суддзя звяртаецца да падсуднага:

— За што вас каралі перад гэтым?

У адказ злодзей адзначае, што за крадзеж падковы.

— І вы за гэта сядзелі ў турме?

— Так, — адказвае падсудны, — да падковы быў прыбіты конь.

**Оля Северын**
Мастаўляны

### СКУПОЕ — НЕ ЗЛОЕ

Аднойчы гаспадар звяртаецца да свайго суседа і просіць пазычыць каня. У той час сусед карміў кабылу і адказвае:

— Ідзі, дурны! Я сам не маю каня. Бачыш, што кабылу кармлю. Гаспадар нічога не адказаў і паплёўся дамоў.

**Мікалай Лапінскі**
Тынкаўшчызна.

### ВУЧОНЫ

— Татка, ведаеш, я хачу стаць вялікім вучоным.

— Цікава, чаму ж гэта?

— Бо ведаеш, татка, я тады ніколі нічога не вучыўся б, а ўсё ведаў бы.

**Мацейка з Гайнаўшчыны**